

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года  № 38 (526)  26 ВЕРАСНЯ 2001 г.


# У гонар беларускай мовы

У Старых Дарогах на сядзібе музея выяўленчага мастацтва Анатоля Белага 29 жніўня 2001 г. устаноўлены помнікі Максіму Багдановічу і паэту Анатолю Бярозку. Аўтарамі помнікаў з'яўляюцца заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі Сяргей Вакар і лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Лятун. Гэтыя помнікі ўваходзяць у агульны ансамбль "Змагарам за родную мову". Плануецца паставіць яшчэ некалькі помнікаў. Сярод іх помнік Ларысе Геніюш, (скульптар Міхась Інькоў), Францішку Скарыну і Францішку Багушэвічу (скульптар Сяргей Адашкевіч), а таксама сямімятровую стэлу з імёнамі 100 амбітных дзеячоў нашай культуры, пачынаючы ад Францішка Скарыны і заканчваючы Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным і інш. дзеячамі Таварыства беларускай мовы, якія ўнеслі і ўносяць вялікі ўклад у змаганне за нашую мову.

На адкрыцці помнікаў М. Багдановічу і Анатолю Бярозку прысутнічалі старшыня саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, перакладчык і крытык Міхась Кенька, паэт Браніслаў Спрынчан, журналіст Яўген Пясецкі, шмат іншых дзеячоў з навукова-практычнай экседыцыі "Дарога да святыняў", якія 29 жніўня па дарозе да Мсціслава наведалі Старыя Дарогі з Дабрадатным агнём ад труны Хрыстовай.

Адкрыццё помнікаў Максіму Багдановічу і Анатолю Бярозку ўвайшло ў кантэкст агульнага Свята беларускага пісьменства і друку, якое афіцыйна адкрылася 2 верасня у Мсціславе, кульмінацыяй якога было адкрыццё помніка беларускаму і рускаму друкару Пятру Мсціслаўцу. Тры помнікі на адно свята – калі такое было на Беларусі? Пры савецкім часе адзін помнік нацыянальным дзеячам ставілі прыкладна раз у 10 гадоў. Пералічыце на пальцах усе помнікі нацыянальным дзеячам і 80 гадоў савецкай улады падзяліце на колькасць злічаных вамі помнікаў. Вось так савецкая ўлада рэгламентавала прабуджэнне нашай нацыянальнай свядомасці і нашага нацыянальнага гонару.



**Помнік Максіму Багдановічу. Скульптар заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Сяргей Вакар. Медзь. 1999 г. Пагрудны фрагмент помніка М. Багдановічу, які ўстаноўлены ў 1994 г. у Яраслаўлі**

І тое, што цяпер не толькі кожны горад імкнецца паставіць помнік свайму знакамітаму зямляку, а нават з'яўляюцца помнікі пастаўленыя прыватным спосабам на сядзібе свайго музея ці сваёй хаты з'яўляецца адметнасцю нашага часу.

Гэтая акалічнасць яшчэ не асэнсована нашай літаратурнай і мастацкай крытыкай, а між іншым яна сведчыць пра многае і ў першую чаргу пра тое, што нашае грамадства ўжо даўно саспела не толькі да ўспрыняцця нацыянальных ідэй, але патрабуе і зверх намаганнямі само ўвасобіць гэтыя ідэі ва ўсіх галінах культурна-асветніцкага жыцця краіны, горада, мястэчка. Вось чаму дальнабачныя граданачальнікі ставяць у сваіх гарадах помнікі Еўфрасінні Полацкай, Сафіі Слуцкай, Кірылу Тураўскаму, Пятру Мсціслаўцу, Напалеону Ордзе, Адаму Багдановічу, Уладзіміру Караткевічу. Вось чаму рэктар Белдзяржуніверсітэта ў двору універсітэта залажыў цэлы пантэён дзеячоў беларускай асветы і культуры, а дырэктар Маладэчанскай музычнай навучальні паставіў каля вучэльні помнік кампазітару Агінскаму. Вось чаму руплівец на ніве беларускага мастацтва Анатоль Белы на сваёй прыватнай сядзібе стварае цэлы ансамбль "Змагарам за родную мову".

Будзем жа спадзявацца, што прыведзеныя намі факты стануць добрымі прыкладамі для пераймання іншымі граданачальнікамі, рэктарамі, а таксама прыватнымі асобамі, якія адчуваюць патрэбу і імкненне народа да нацыянальнай свядомасці і сцвярджэння свайго нацыянальнага гонару, бо нішто так не фармуе свядомасць і гонар народа як манументальнае мастацтва, так як яно найболей даступнае і адкрытае для народа найболей эмацыянальна ўздзейнічае на кожнага гледача. А патэнцыяльнымі гледачамі становяцца ўсе жыхары горада, раёна, краіны. Будзем верыць, што наступяць такія часы, калі гарады і калгасы будуць спаборнічаць паміж сабою не ў тым, хто больш намалаціў жыта і надаіў малака, а тым хто паставіў лепшы помнік свайму земляку, пабудаваў лепшы палац культуры, стварыў лепшы музей, лепшую мастацкую галерэю, стварыў лепшыя ўмовы для жыцця і культурнага адпачынку сваіх людзей.

Няхай так збудзецца!

*А. Белчырвонабелы.*



**Помнік паэту Анатолю Бярозку. Скульптар лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Лятун. Бронза. 1996 г.**

## 10 гадоў дзяржаўнасці беларускай нацыянальнай сімволікі

***Заява Сакратарыяту ТБМ***

19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі прыняў тры лёсавызначальныя рашэнні: аб змене назвы краіны, усталяванні дзяржаўнага герба "Пагоня" і дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга.

Такім чынам, наша краіна афіцыйна абвясціла на ўвесь свет аб вяртанні сваёй гістарычнай назвы і сваіх спрадвечных сімвалаў. Гэтае рашэнне было прынята 2/3 галасоў усіх дэпутатаў ВС, якія прадстаўлялі розныя сацыяльныя, узроставыя, палітычныя і нацыянальныя групы тагачаснага насельніцтва краіны і сведчыла пра высокую кансалідацыю беларускай нацыі ў канцы XX ст.

Мы нагадваем, што менавіта гэтым сімвалам прысягнуў у 1994 годзе першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

Па сённяшні дзень герб "Пагоня" -- адзін з самых старажытных гербаў Еўропы і бел-чырвона-белы сцяг, вытокі якога сягаюць уXVI ст., застаюцца папулярнымі сярод беларускага насельніцтва і, асабліва, моладзі.

У сувязі з гэтым Сакратарыят ТБМ прапануе сённяшнім беларускім уладам, якія зараз гучна заяўляюць аб магчымых зменах у сваёй знешняй і ўнутранай палітыцы прыняць дзяржаўны заканадаўчы акт аб адначасовым ужыванні разам з сённяшнімі дзяржаўнымі сімваламі нацыянальнай гістарычнай сімволікі герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга.

**Сакратарыят ТБМ.**
**20 верасня 2001 г.**

Беларуская мова-
ТБМ

наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Бязрукава (Менск) – 700 руб.
2. Кулін Яўген (Менск) – 20 $
3. Жучкова Наталля (Менск) – 5000 руб.
4. Дзятук Ю. В. (Бярозаўка) – 1000 руб.
5. Казлоўская І. І. – 600 руб.
6. Мінчук Г. К. (Менск) – 5000 руб.
7. Дзямід Мікола П. (Менск) – 10000 руб.
8. Петрукевіч Васіль (Менск) – 5000 руб.
9. Жытко Іван (Камянец) – 5000 руб.
10. Шкірманкоў Ф. (Слаўгарад) – 5000 руб.
11. Жучкова Наталля (Менск) – 5000 руб.
12. Сідлярэвіч Яўгенія (Мельбурн, Аўстралія) -- 50 $
13. Сафро Марыя (Масква) – 500 руб.
14. Мішчук Г. Л. (Менск) – 5.000 руб.
15. Петруковіч В.У. (Менск) – 5.000 руб.
16. Волчак Андрэй (Польшча) – 20 DM
17. Жучкова Наталля (Менск) – 15.000 руб.
18. Суполка "Рэфармацыя" -- 50$
19. Жучкова Наталля (Менск) – 10.000 руб.
20. Руткоўская Яўгенія (Менск) – 6.000 руб.
21. Кааператыў "Амір-С" (Менск) – 100.000 руб.
22. Карман Анатоль (Менск) – 5.000 руб.
23. Смілавіч. с/тэхнікум, студэнты – 9.200 руб.
24. Студэнты БДТУ (Менск) – 2.848 руб.
25. Петрукевіч Васіль (Менск) – 4.000 руб.
26. Васілеўскі Аляксей (Менск) – 100 руб.
27. Бондар Раман (Менск) – 100 руб.
28. Ганчарова Валянціна (Менск) – 500 руб.
29. Бярыраў Уладлзімір (Менск) – 1.000 руб.
30. Казлоўская Іна (Менск) – 500 руб.

Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ сёння – гэта інвестыцыя ў росквіт незалежнай Беларусі і мовы яе народа заўтра!

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



№ 38 (526) 26 ВЕРАСНЯ 2001 г. Наша слова

Уладзімір Содаль

# ПЫТАННІ З ЮНАЦТВА

Яшчэ школьнікам я пачаў адчуваць, што жыву ў якойсьці дысгарманічна штучнай краіне. На словах наша Беларусь "роўная сярод роўных", а на самой справе любую мне Беларусь, яе мову, культуру, адчуваў я, спакваля вынішчаюць, размываюць, пазбаўляюць яе самабытнасці. Я вельмі пакутваў з гэтага і шукаў адказу на свае пытанні. Шукаў у даступных мне кнігах. Але хацелася пагаварыць пра набалелае шчыра з якім-небудзь дасведчаным і аўтарытэтным сумоўцам, аднадумцам. Але тады такога чалавека ў мяне, на жаль, побач не было. І я наважыўся з сваімі трывогамі звярнуцца аж у Менск. І да каго б вы падумалі? Да самога Ніла Гілевіча – тады яшчэ ці студэнта апошніх курсаў ці аспіранта-пачаткоўца. Спачатку я паслаў яму колькі сваіх вучнёўскіх паэтычных мрояў, а затым напачатку пяцьдзесят сёмага напісаў праграмна-запытальны ліст. Напісаў ужо з Мурманска, куды мяне закінуў лёс неўзабаве пасля заканчэння школы. Гэты мой ліст з далёкай поўначы Ніл Сымонавіч як чалавек дбайны, празорлівы, збярог, захаваў, і мне думаецца ён не страціў свае надзённасці і сёння. Ён пралівае таксама святло, якімі думкамі і трывогамі жылі і аўтар ліста і ягоны адрасат у другой палове пяцідзесятых гадоў ужо мінула стагоддзя.



Ніл Гілевіч недзе прыблізна ў часы напісання ліста. Фота А. Каляды.

*Добры дзень або вечар, Ніл Гілевіч! Кожны дзень, у любую хвіліну я думаю аб сваёй Беларусі і адначасова ўспамінаю Вас. А ўспаміны мае, гэта не проста ўспаміны аб нядаўна прыемным мінулым, а, наадварот, апрача крыўднага, горычнага і непаўторна балючага на сэрцы за свой беларускі народ, праўда, не ўвесь, нічога мілага і добрага, што б задаволіла поўнасцю маю набалелую душу, не магу ўявіць і ўспомніць. Вас жа, Ніл Гілевіч, - прабачце, што не ведаю па-бацьку, - я ўспамінаю, як чалавека, які штодзённа дыхае жыццём рэспублікі і зможа мне, незразумеламу, даць паўнацэнны адказ і дапаможа разабрацца ва ўсім, як трэба жыць. Я не раз пытаўся сам у сябе, розным чынам шукаў адказу і ўсё бязмэтна. Скажыце, чаму ў нашых беларускіх гарадах не пачуеш на кожным кроку гутаркі на роднай мове, чаму ў беларускіх гарадах не пачуеш беларускай песні, ды не толькі ў гарадах, а нават і ў вёсках? Хіба толькі на сцэне ў час канцэрта, ды і то не заўсёды. Чаму ўся дакументацыя, ва ўсіх установах, нават мясцовага значэння, афармляецца толькі па рускай мове. Ні даведку, ні характарыстыку, ні заяву ды ніякі любы дакумент, апрача пашпарта, кам. білета, ды атэстата сталасці, пры ўсім тваім жаданні не атрымаеш на роднай мове. А назавіце мне хоць адзін тэхнікум, вучылішча, інстытут, дзе б выкладанне вялося на роднай мове! Няма такога і не было. Скажыце, дзе ж тое ўсё беларускае ў маёй Беларусі, дзе тая гордасць нацыі?! Чым жа беларус пахваліцца, нават не ведаючы роднай мовы? Ганьба, Ніл ГІлевіч, а мне да болю крыўдна. Зайдзіце ў кніжны магазін і Вам паскардзяцца, што слаба разыходзяцца кнігі на беларускай мове. А чаму?...*

*А чаму зменшыўся тыраж кніг? Калі ў самы цяжкія гады 1946-1947, калі з паперай было скупа, творы выдаваліся тыражамі ад 30000 да 25 тыс. і сама мала 10000 тысяч. Цяпер жы мы лічым з вамі 10000-ны тыраж самым вялікім, а то сем тысяч, пяць і яшчэ менш. А ўсе нашы часопісы выдаюцца маленькімі тыражамі і тыя, мусіць не ўсе разыходзяцца. А прыйдзе свята – і ты ідзеш па цэнтральных вуліцах і ўсюды лозунгі зноў на рускай мове, а калі дзе-небудзь знойдзеш два-тры лозунгі на сваёй мове, то як гістарычную рэдкасць сярод велічных кварталаў беларускага горада. Вось яна, Беларусь мая! Цяжка, відаць, паэту і ў тым ліку і Вам, ведаючы, што творы не дойдуць да сэрцаў і розумаў беларускіх людзей. Я Вас люблю як паэта і творы цаню, за іх шырокі размах, хвалюючыя радкі. А хіба гэта паэт, які апявае Беларусь чужой гэтай краіне мовай? Я маю на прымеце Фёдара Аданечку з Гомеля, які апісвае сіні Сож, мабыць, чужы для яго сэрца. Не трэба беларускай зямлі такія паэты! Калі б (я сустрэўся з ім, я б яму ў вочы сказаў, што ён чужы для гэтага краю. Маёй краіне трэба такія людзі, як Слесарэнка. Калі я чытаў яго прамову, сказаную на III з'ездзе пісьменнікаў, я не мог утрымацца ад слёз. Я і цяпер памятаю радкі: "О! Як бы я жадаў, каб было ўсё наадварот, каб я ездзіў не ў Беларусь на гастролі, а на Украіну". Такіх людзей, сапраўдных сыноў нацыі, і то не могуць прытуліць на радзіме. Да чаго мы беларусы дажыліся? А ці не думаеце Вы, Ніл Гілевіч, што наша кінастудыя займаецца сваёй справай? На які чорт здаліся іхнія кінакарціны, як "Зялёныя агні", "Пасеялі дзеўкі лён"?.. Хай такія фільмы здымаюць маскоўскія студыі, якія штоглд выпускаюць па некалькі дзесяткаў стужак, а тут даюцца дзве на год і тыя пускаюць на пустышкі. Нам трэба на экраны Саюза, як можна больш выпускаць фільмы па творах беларускіх аўтараў. Чаму б замест усялякіх "зялёных агнёў" не прадэманстраваць на экране цудоўны раман К. Чорнага "Трэцяе пакаленне", не расказаць саюзнаму глядачу аб нашым Кастусю Каліноўскім, Георгію Скарыну, аб палымяным змагару за беларускую мову Дуніну-Марцінкевічу. А на Украіне ўсё падобнае робіцца.*



Ніл Гілевіч і Уладзімір Содаль на творчым вечары ў Купалаўскім доме 12.12.1997 г.

*Мне няма яшчэ поўных дзевятнаццаці, хаця мне даюць на погляд дваццаць, дваццаць адзін год, аднак я не думаю больш ні аб чым: ні дзяўчаты, ні розныя забавы не радуюць мяне. Калі я гутару з чалавекам, словы мае – гэта адно, а думкі дзесці там, у Беларусі. Я ўжо не раз стараўся заглушыць усё гэта, толькі мне нічога не ўдаецца. Калі б Вы ўніклі ў маю душу, Вы б даведаліся, як цяжка мне!*

*У школе вучні адказваюць на беларускай мове, настаўнікі тлумачаць на рускай. Проста не разумею, што такое робіцца!*



Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Генадзь Карпенка, Юры Захаранка на пахаванні Анатоля Майсені



Ніл Гілевіч на V з'ездзе ТБМ





Уладзімір Содаль

# ПЫТАННІ З ЮНАЦТВА

*Колькі я б не пісаў, напэўна ўсё роўна ўсяго б не напісаў, аднак Вы і самі ўсё ведаеце не горш за мяне, а таму буду прасіць Вас, чаму так, што трэба рабіць, што ў сілах зрабіць нашы пісьменнікі, напісаць мне. Прашу Вас, тысячу разоў прашу і буду прасіць: пішыце, толькі хутчэй. А я на сваю чаргу раскажу наступным разам (шмат чаго), а цяпер думкі бунтуюцца. Не магу!... І шчэ прасіць Вас буду – прыслаць кнігу Вашых твораў, настойліва прашу. Гэта многа значыць. Прышліце абавязкова.*

*Содаль.*

*Бывайце здаровы.*

*Студзень.*

*Мурманск.*



V з'езд ТБМ

З часу напісання гэтага ліста мінула больш за сорак гадоў.

І што?

На Беларусі па-ранейшаму нялёгка і няпроста спавядаць беларушчыну, быць беларускім песняром, беларускім дзеячам. Кожны з чытачоў "Нашага слова" зведаў гэта на сваёй скуры.

Я належу з Нілам Гілевічам да аднаго пакалення. Мы яшчэ ніколі не жылі вольна, гарманічна з сваім меналітэтам. Мы жылі і працягваем жыць у вечным духоўным прыгнёце. Цяжка і пакутліва апошнім часам жывецца і народнаму песьняру Беларусі, як і ўсім нам, у роднай старонцы. Як і шмат хто з нас, ён у роднай старонцы чужынец!

Я быў сведкам, калі на Плошчы Незалежнасці пад час якогасьці камуністычнага мітынгу з натоўпу выскачыла якаясь кабета. Падляцела да Ніла Сымонавіча, які шыбаваў адзінока праз апусцелы край пляца, і пачала штосьці злосна яму выкрыкваць. Я якраз быў поблізу і запрыкмеціў гэта. Ніл Сымонавіч стаяў збянтэжаны, разгублены. Кабета ля яго ўжо не было. Я адчуў, што здарылася штось непрыемнае, прыкрае.

- Што яна вам тут нагаварыла? – пацікавіўся я, падышоўшы да Ніла Гілевіча.

- Ды вось выскачыла і крычэла на мяне: "Фашыст! Фашыст!"

Божа Літасцівы! Што ж на свеце робіцца! Абвінавачваць у фашызме чалавека, які ледзь ацалеў ад гэтага фашызму, які паклаў усё сваё жыццё і талент дзеля славы і гонару Беларусі, які не адно дзесяцігоддзе ладзіць сяброўскія масты з усім славянскім светам, за што мае ўзнагароды. Ну дзе гэта бачна, дзе гэта чутна?!

Можна было б пра гэта прыкры момант і не згадваць, калі б гэта быў выпадковы эпізод. Але ж такую ж пагарду да народнага паэта, як і шмат да каго іншых, хто душой і сэрцам шчыруе для Беларусі, носіць сам "народна абраны". На свае вушы чуў з экрана тэлевізара яго грэблівыя ноткі пра сучасных класікаў: маўляў, запаланілі сваімі творамі хрэстаматыі. Далей ішоў пералік прозвішчаў "усенародна абранаму" нялюбых класікаў. Сярод іх называліся і імя народнага песьняра.

...Неяк з Кіева, у канцы васьмідзесятых гадоў завітаў у Менск творчы тэлевізійны гурт. Яны пажадалі зняць і Ніла Гілевіча. Пасля здымак хтось з украінскіх рэдактараў сказаў: "Здымаць Ніла Сымонавіча адна асалода!... У яго дзяржаўная галава!.." Праўда народная мудрасць кажа: "Госць мала бывае, але ўсё прыкмячае". Ніл Сымонавіч даўно ўжо жыве і працуе па-дзяржаўнаму. Ён мудры і разважлівы дзяржаўны дзеяч-паэт. Яму ў верасьні семдзесят. Усе гэтыя семдзесят – гэта гады нястомнага змагання і сцвярджэння і самога сябе, і права на нашу самабытнасць, памкненне "дайсці да Беларусі". Памкненне гэтае наша агульнае. Яно з нашых юнацкіх гадоў.

20.VIII.2001 г.



Ніл Гілевіч, Янка Брыль і Уладзімір Содаль падчас рады Саюза пісьменнікаў. 1996 год. Гаворка пра гісторыю кніжкі " Каму дудка паслушна..."

Юбілейная вечарына
**народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча**
адбудзецца а 18-й гадзіне 4 кастрычніка 2001 года
ў тэатральнай зале Чырвонага касцёла



Ніл Гілевіч сярод дэлегатаў VI з'езду ТБМ

## Пакуль...

*Пакуль з пагардаю ад нас*
*Не адвярнуўся дух Купалы --*
*Пільнуйма зніч, каб не пагас,*
*Каб быў запас агню трывалы,*
*Каб душы вывеўшы з турмы,*
*Як пад прысягаю, сурова*
*На свет на ўвесь сказалі мы*
*Сваё не сказанае слова!*

***Ніл Гілевіч.***

8. 05. 1993 г.



Ніл Гілевіч і Людміла Дзіцэвіч на Кангрэсе дэмакратычных сілаў





# Пункт прылажэння палітыкі этнагенацыду -- Светлагорск

## Змаганне ліцэістаў

17 верасня з 7 гадзінаў 20 хвілінаў да 8 гадзінаў 15 хвілінаў ліцэісты Светлагорска (Гомельская вобласць) правялі пікет каля будынка гарвыканкаму, што на цэнтральнай плошчы горада.

Як паведаміў БелаПАН дырэктар Светлагорскага філіяла Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Тэльман Маслюкоў, падобныя пікеты, накіраваныя супраць закрыцця ліцэя, праводзяцца навучэнцамі кожны дзень перад пачаткам заняткаў. Маладыя людзі выходзяць на плошчу пад лозунгамі, сярод якіх – "Не дамо зачыніць ліцэй!", "Захаваем адзіную ў горадзе беларускамоўную ўстанову" і "Не жадаем вяртацца ў сярэднюю школу!".

Т. Маслюкоў выказаў спадзяванне на тое, што гарадскія ўлады не дапусцяць ліквідацыі ліцэя, як асобнай навучальнай установы. Бацькі навучэнцаў звярнуліся да міністра адукацыі з лістом супраць закрыцця ліцэя, а кіраўніцтва грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" накіравала падобныя звароты кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Уралу Латыпаву і віца-прэм'еру ўрада Міхаілу Дзямчуку.

"Кожны дзень нам тэлефануюць, дасылаюць лісты і электронныя паведамленні з адной просьбай – захаваць ліцэй", - сказаў спадар Маслюкоў. Паводле яго слоў, ліст у падтрымку навучальнай установы прыйшоў у гарвыканкам з Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які шмат гадоў супрацоўнічае з ліцэем у арганізацыі археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Падтрымала навучэнцаў і старшыня дзіцячага дабрачыннага фонду "Сакавік" Марыя Міцкевіч, унучка народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. "Пры дапамозе гэтага фонду праводзіцца штогадовае аздараўленне ліцэістаў у Вялікабрытаніі і Ірландыі", - сказаў Тэльман Маслюкоў.

Нагадаем, што загад аб закрыцці філіяла ліцэя быў выдадзены 11 верасня. Згодна з гэтым дакументам, усе ліцэісты пераводзяцца ў СШ № 1 Светлагорска, а адзін з будынкаў навучальнай установы перадаецца Дому дзіцячай і тэхнічнай творчасці. У загадзе ўсё гэта падаецца як "рэарганізацыя навучальнай установы". Аднак, згодна з неафіцыйнай версіяй, прычынай для закрыцця філіяла ліцэя стала арганізаваная там 7 верасня сустрэча навучэнцаў, настаўнікаў і гарадской інтэлігенцыі з няўгоднымі ўладам пісьменнікам Уладзімірам Арловым, а таксама бардамі Зміцерам Бартосікам і Вольгай Цярэшчанка.

Як распавёў Т. Маслюкоў, намеснік міністра адукацыі Беларусі Генадзь Дылян абяцаў да 20 верасня вырашыць праблемы, узніклыя вакол ліцэя. Пытанне аб лёсе светлагорскага філіяла ліцэя даручана разгледзець аднаму са спецыялістаў Мінадукацыі, які займаецца работай ліцэяў. "Для вырашэння гэтай праблемы ў міністэрства, як бачна, будзе запрошаны намеснік дырэктара НДГЛ Лявон Баршчэўскі", - лічыць Маслюкоў. Разам з тым, паведаміў ён, з 17 верасня спыненае фінансаванне светлагорскага філіяла і аплата працы выкладчыкаў, пра што паведаміла загадчыца аддзела адукацыі Галіна Філіповіч; ліцэістаў перасталі карміць у школьнай сталоўцы. Нягледзячы на гэта, заняткі ў ліцэі не спыняюцца, выкладчыкі працуюць бясплатна.

Са словаў дырэктара светлагорскага філіяла Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя, старшыня Светлагорскага гарвыканкаму Баляслаў Пірштук прапанаваў кіраўніцтву навучальнай установы спыніць пікетаванне будынкаў гарвыканкаму і аддзела адукацыі, якое штодзённа праводзяць ліцэісты. "У сувязі з прапановай сп. Пірштука вырашыць пытанне аб далейшым функцыяванні ліцэя ў спакойных абставінах, без стварэння напружанасці, ліцэісты адмянілі правядзенне вячэрняга пікетавання 17-га і раніншяга 18 верасня", - сказаў Тэльман Маслюкоў. Дырэктар спадзяецца, што светлагорскі філіял ліцэя ўсё ж удасца захаваць, паколькі ні адзін ліцэіст не выказаў жадання пераходзіць у школу.

*Марат Гаравы.*

## Заява

### Рады Светлагорскай арганізацыі Грамадскага аб'яднання Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

**12.09.2001 г.** **г. Светлагорск**

У сувязі з маючай адбыцца так званай рэарганізацыяй, а па сутнасці ліквідацыяй філіі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа рада Светлагорскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны ЗАЯЎЛЯЕ:

1. Рэарганізацыя філіі з перадачай ліцэйскіх класаў у склад СШ № 1 не дазволіць ажыццяўляць паўнавартасны навучальны працэс па ліцэйскіх праграмах. Навучэнцы будуць штучна і прымусова вырваны са створанага і падтрымліванага калектывам педагогаў і навучэнцаў беларускамоўнага асяроддзя.
2. З ліквідацыяй філіі ліцэя, як асобнай навучальнай установы, стане немагчымым удзел навучэнцаў ва ўсіх агульнадзяржаўных мерапрыемствах: семінарах, навуковапрактычных канферэнцыях, конкурсах, замежных стажыроўках і іншых, якія праводзяцца спецыяльна для навучэнцаў ліцэяў.
3. Рада ТБМ не верыць у здольнасць і жаданне кіраўнікоў СШ № 1 – людзей, якія ні ў працы, ні ў побыце не карыстаюцца беларускай мовай, па сутнасці свабодна гэтай мовай не валодаюць, працягваць і развіваць тую высакародную справу беларускамоўнай гуманітарнай адукацыі навучэнцаў, якая развіваецца ў ліцэі.
4. Рада ТБМ нагадвае, што навучальны працэс у філіі ліцэя з'яўляецца самым выніковым з усіх сярэдніх навучальных установаў горада. Толькі ў выпуску 2001 г. з 20 выпускнікоў 17 паступілі ў ВНУ (85%). У папярэдні гадах былі выпускі ліцэя, калі і 100% выпускнікоў станавіліся студэнтамі.
5. Рада ТБМ заклікае кіраўніцтва гарвыканкаму і асабіста яго старшыню Пірштука Б.К. адмяніць не да канца прадуманы загад загадчыцы аддзела адукацыі аб рэарганізацыі, а па сутнасці аб ліквідацыі філіі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.
6. Прапануем ператварыць філію НГДЛ імя Я.Коласа ў гарадскі ліцэй з давядзеннем колькасці навучэнцаў да нарматыўнай, а кіраўніцтву ліцэя і аддзела адукацыі знайсці рэзервы для зніжэння выдаткаў на навучанне ліцэістаў.

**Прынята на паседжанні Рады 12 верасня 2001 года.**

## Дзяўчына вярнулася ў ліцэй...

Навучэнка адзінаццатага класа Светлагорскай філіі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа Соня Зобава, якая напачатку новага навучальнага года перайшла ў 11-ты "Б" ліцэйскі клас сярэдняй школы № 9 правучылася там толькі першы тыдзень. А потым забрала дакументы і зноў вярнулася ў ліцэй, каб закончыць навучанне ў гэтай установе.

Калі педагогі ліцэя спыталі, чаму яна вярнулася, адказ быў такім: "Пасля ліцэя вучыцца там, у той школе я не змагла. Той атмасферы, той сістэмы адносінаў паміж настаўнікамі і вучнямі, што склалася ў ліцэі, да чаго я прывыкла, што з'яўляецца такім жа натуральным, як дыханне, у школе няма і блізка. А без гэтага я проста не змагла".

Вяртанне Соні ў ліцэй дакладна супала па часе з атрыманнем загаду па аддзелу адукацыі Светлагорска аб закрыцці ліцэя!

Як жа так? Чаму?

Фармальнай падставаю для з'яўлення такога загаду стала тое, што новы Статут НДГЛ імя Я.Коласа не ўтрымлівае палажэння аб філіях, адзінай з якіх да гэтага часу і быў ліцэй у Светлагорску. Калі няма філіі, значыць няма і юрыдычнай падставы для фінансаваньня ліцэя ў Светлагорску. Такой логікай і кіравалася загадчыца Светлагорскага гарадскога аддзела адукацыі Галіна Філіповіч, ствараючы сумнапамянёны загад.

Неабходна аднак успомніць, што пры абмеркаванні ўзнікшай сітуацыі ў жніўні спадарыня Філіповіч вяла з дырэктарам ліцэя Тэльманам Маслюковым размову аб мэтазгоднасці ператварэння філіі НДГЛ у Светлагорскі гарадскі ліцэй.

Аднак, калі пасля доўгіх узгадненняў і зацвярджэння Статут НДГЛ дайшоў да Светлагорска (10 верасня) 12 верасня з'явіўся загад аб "рэарганізацыі" установы. Паводле гэтага загаду два ліцэйскія класы, 10-ты і 11-ты уключаюцца ў склад СШ № 1.

Яшчэ адной падставай з'явілася і тое, што ў ліцэі засталіся толькі два класы і ўсяго 27 вучняў. Набор у 9-ты клас не адбываўся з-за таго, што Статут ліцэя прадугледжвае толькі дзесятыя і адзінаццатыя класы. Вось і вырашылі ў аддзеле адукацыі, што ўтрымліваць калектыў педагогаў на чале з дырэктарам для такой малой колькасці вучняў нерэнтабельна. Але ж можна было і падказаць дырэктару ліцэя аб неабходнасці папоўніць два класы, што засталіся да нарматыву ў дваццаць вучняў. Можна было і параіцца з калектывам педагогаў, бацькамі пра далейшы лёс ліцэя, выслухаць іх думкі, прапановы. Гэта не зроблена. Загад з'явіўся 11 верасня. З 17 спынена фінансаванне ліцэя.

Зачыняецца установа, чые гадаванцы навучаюца зараз у самых прэстыжных ВНУ Беларусі, Расеі, а найбольш здольныя ў Індыі і ЗША. Толькі з выпуску 2001 года з 20 вучняў 19 сталі студэнтамі. Былі і выпускі, калі ўсе, хто скончыў ліцэй паступілі ў ВНУ.

12 верасня збіраецца на пасяджэнне Рада Светлагорскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, арганізацыі-сузаснавальніцы ліцэя, якую я маю гонар узначальваць, прымаецца Заява, дзе выказваецца нязгода з ліквідацыяй ліцэя, выносіца канструктыўная прапанова – ператварыць Светлагорскую філію НДГЛ імя Я. Коласа ў Светлагорскі гарадскі гуманітарны ліцэй. Заява накіроўваецца старшыні Светлагорскага гарвыканкаму Баляславу Пірштуку. У той жа дзень а восьмай раніцы навучэнцы, бацькі, вольныя ад працы і педагогі ладзяць на плошчы перад выканкамам пікет, пратэстуючы супраць закрыцця ўстановы. На плакатах надпісы: "Нам не даюць вучыцца", "Філіповіч, што вам зрабіў ліцэй", "Закрыццё ліцэя – падарунак да свята горада" і іншыя таго ж зместу. Пікет здымае мясцовая тэлестудыя, увечары сюжэт паказаны.

А 15-й гадзіне сход педкалектываў у ліцэі. Прысутнічае і тлумачыць сітуацыю спадарыня Філіповіч. Дазволена прысутнічаць і мне. Выступы эмацыйныя. Ніхто з педагогаў не згодзен пераходзіць на працу ў першую школу, якая карыстаецца ў горадзе, мякка кажучы, не лепшай рэпутацыяй. Спадарыня Філіповіч кажа, што з 17 верасня настаўнікі могуць вучыць дзяцей у ліцэі, але зарплаты не атрымаюць. Выкладчык фізічнага выхавання і дапрызыўной падрыхтоўкі (захаваны і такі рэлікт) Яўген Мухін кажа, што згодзен выкладаць сваё прадметы бясплатна, абы толькі ў ліцэі. Яго затым падтрымалі і іншыя педагогі.

Выступаю ад імя ТБМ, зачытваю заяву. Педагогі падтрымліваюць, начальства маўчыць.

Сюжэты пра Светлагорскі ліцэй гучаць па радыё Свабода, Рацыя, паведамленне на першай старонцы "Народнай Волі".

13 верасня навучэнцы разам з педагогамі ладзяць ужо два пікеты, а восьмай і шаснаццатай гадзінах. Лозунгі тыя ж. Намеснік старшыні гарвыканкаму пан Звягін і міліцыянты спрабуюць запалохаць пікетоўцаў. А палове сёмай у ліцэі сход бацькоў. Адзінагалосна прымаецца тэкст ліста да міністра адукацыі з патрабаваннем захаваць у Светлагорску ліцэй, ператварыўшы яго з філіі НДГЛ у Светлагорскі гарадскі гуманітарны ліцэй.

Да абароны правоў светлагорскіх ліцэістаў вучыцца на беларукай мове падключаецца старшыня ТБМ Алег Трусаў, выдомы пісьменнік, чые творы вывучаюцца ва ўсіх беларускіх школах, Уладзімір Арлоў, журналіст БалаПАН Марат Гаравы. Рыхтуюцца лісты віца-прэм'еру Міхаілу Дзямчуку, кіраўніку адміністрацыі прэзідэнта Уралу Латыпаву.

14 верасня а палове восьмай ліцэісты і педагогі зноў на цэнтральнай плошчы з тымі ж лозунгамі. Сёння іх ужо ніхто не палохае, але кіраўніцтва горада да пікетоўцаў не выходзіць.

Напярэдадні гэтых падзеяў, 7 верасня ў Светлагорск прыехалі пісьменнік Уладзімір Арлоў, барды Вальжына Цярэшчанка і Зміцер Бартосік.

Сустрэча іх з чытачамі, а гэта былі вучні старэйшых клясаў, настаўнікі, сябры ТБМ, адбылася ў адным з ліцэйскіх класаў, што па загаду аддзела адукацыі выдзелены ў СШ 1 для ліцэя. Падчас добразычлівай шчырай размовы ў аздыторыю двойчы ўрывалася ў суправаджэнні афіцэра міліцыі дырэктарка школы пані Маслава. Яна вельмі абуралася, што гэтая "палітычная" акцыя адбываецца ў яе школе без яе дазволу, ды яшчэ ў такі надзвычайны час, як выбары прэзідэнта.

Ці не гэтая падзея, у дадатак да таго, што навучанне ў ліцэі вядзецца на беларускай мове, што вучні рэгулярна ўдзельнічаюць у навуковых канферэнцыях, конкурсах, нават бываюць на стажыроўках за мяжою і стала адной з прычынаў такога недарэчнага рашэння кіраўніцтва гарадскога аддзела адукацыі?

Навучэнка адзінаццатага класа Соня Зобава вярнулася ў ліцэй!

Ці дазволяць ёй даросьлыя дзядзькі і цёткі – кіраўнікі горада атрымаць ліцэйскі атэстат?

*Вадзім Болбас.*
*15.09.2001 г.*





Алесь Петрашкевіч

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Сатырычная камедыя)

***Шаноўныя чытачы!***

***Прымаючы пад увагу, што Вы прыхільна аднесліся да маіх п'ес "Інтэлігенты" і "Прагноз на паслязаўтра", якія друкаваліся у "Нашым слове" у 1999 і 2000 гадах, я на гэты раз прапаную Вашай увазе сатырычную камедыю "Інтэрнацыянал па-беларуску", ведаючы, што сатыра а нікому не падабаецца, акрамя чытачоў і гледачоў. Адначасна паведамляю, што п'еса ў мінулым годзе была надрукавана ў часопісе "Тэртапілы" №2 і прышлася да душы нашым суродзічам з Беласточчыны.***

***З павагай Алесь Петрашкевіч.***

**Дзейныя асобы**

**Іван Іванавіч** – пан дырэктар.
**Тарас Тарасавіч** – пан акалотачны.
**Юзаф Тадэвуш** – пан гіцаль.
**Янкель Янкелевіч** – пан залатар.
**Ахмет Ажгірэй** – пан гандляр.
**Янка-нямко** – ніхто.

*Дзея дзеецца на пляцоўцы буйнапанэльнага шматкватэрнага дома Рэспублікі Беларусь у эпоху пераходу ад сацыялізму да капіталізму.*

**Дзея першая**

*Пляцоўка перад шасцю дзвярыма шматкватэрнага дома. Па сярэдзіне пляцоўкі жэрдка, якая выкарыстоўваецца як тронец (флагшток). Да яе прымацаваны кацёлкі, на якія нацягнуты шнур з прычэпкамі. Каля жэрдкі – абдзёрты стол. Сцены і дзверы аблеплены самай невераroднай рэкламай, якая красамоўна сведчыць пра "пераходную эпоху". Тут жа каля сцяны стаіць вялікі ліст фанеры.*

*З першых дзвярэй выходзіць Янка-нямко, забірае фанеру, нясе яе ў кватэру і вяртаецца. На ім гумовыя боты, ватоўка і шапка-аблавуха. Узрост не акрэслены, бо чалавек даўно не голены. Ён абходзіць усе дзверы – у адны стукае, у другія звоніць – цярпліва чакае, прысеўшы на стол. У руках у яго вялікі цалафанавы мех. Не вельмі ветлівыя гаспадары кватэр выстаўляюць за дзверы хто вёдры са смеццем, хто смецце ў скрутках газет, а найбольш бутэлькі і адразу ж знікаюць за дзвярыма. Янка нават не паспявае з імі паздароўкацца. Ён толькі скрыгоча зубамі, мыкае і, нават, скуголіць, як многія глуханямыя. Спачатку з радасцю збірае бутэлькі ў мяшок і нясе ў сваю кватэру, а потым ужо выносіць смецце.*

*З наступных дзвярэй выходзіць замурзаны, абшарпаны і зарослы шчэццю алкаш пасля перапою. Акрамя падраных штаноў, бруднай майкі і апоркаў ад валёнак на ім нічога няма. Гэта пан Юзаф Тадэвуш. Пад пахаю ў яго такі ж, як ён сам, замурзаны і абшарпаны гармонік. У руцэ ўслончык. Ён ставіць яго каля стала, а той не хоча стаяць на трох нагах, завальваецца і раз, і другі, і трэці.*

**ЮЗАФ** *(злуецца).* А-а-а, псякрэв, тваю маць!.. *(Штурхае ўслончык нагою, адзявае пас гармоніка на плячо, задумваецца, потым рэзка расцягвае і паволі сціскае мяхі. Яны выдыхаюць папулярную ў народзе мелодыю "златых гор". Спявае.)*

Что б я имел златые горы
И реки полные вина,
Всё отдал бы за ласки-взоры,
Что б ты владела мной одна.

*(Паўтарае два апошнія радкі з нейкім асаблівым надрывам).*

*Адчыняюцца яшчэ адны дзверы і на парозе з'яўляецца Янкель Янкелевіч. Ён у піжамных штанах і чорным капелюшы. У руцэ зэдлік, а пад пахай вялікая скрынка з шахматамі. Не малады ўжо.*

Ляхаім гэрцум, пан гувняж!

**ЯНКЕЛЬ** *(і асуджальна, і спачувальна).* Пасматрыце на яго пажаласта! Пан Юзаф Тадэвуш зноў хоча апахмяліцца на дурніцу і збірае інтэрнацыянал на апельпляц. *(Ставіць свой зэдлік да стала, спрабуе паставіць Юзафаў услончык, але намарна.)*

**ЮЗАФ** *(грае і спявае).*

Я хмяліўся чамярыцай –
Апынуўся ў бальніцы.
Усю ноч да петухоў
Вымывалі з трыбухоў.

**ЯНКЕЛЬ** *(уздыхнуўшы).* Ой, пан гіцаль, пан гіцаль, што б вы былі здаровы і жылі багата...

**ЮЗАФ** *(грае і спявае).*

Добра жыць на Беларусі,
Так і хочацца спяваць!
Не ляцяць сюды ўжо гусі,
Бо тут нечага кляваць.

*З наступных дзвярэй выходзіць Ахмет Ажгірэй-аглы з крэслам і нейкай торбачкай у руках. Ён у нацыянальным халаце і цюбіцейцы. Даволі сталага ўзросту.*

**АХМЕТ.** Селям алейкум, спадар Янкель Янкелевіч! Селям алейкум, пан Юзаф Тадэвуш! *(Складае далоні, кланяецца).*

**ЯНКЕЛЬ.** Шалом алейхем.

**ЮЗАФ.** *(грае і спявае).*

Штодзень дзівіцца народ:
Не дзяржава – азярод!
Што ні вугал – то ларок,
А ў ларку Ахмет – царок.

**АХМЕТ.** Садзіся, дарагі, побач, вучыся рынку – кунаком будзеш. Татары не ляхі, што ўсё жыццё жывуць у крэдыт, які ніколі нікому яшчэ не аддавалі. *(Ставіць сваё крэсла да стала, спрабуе паставіць і Юзафаў услончык).* Які гаспадар, такое і седла. Месхаралык! *(Вяртаецца ў сваю кватэру).*

**ЮЗАФ** *(свядома не заўважае абразы, грае і спявае).*

Розных "марсаў" да халеры,
А народ вучыць пара,
Як варыць абед з сякеры,
А вячэру з тапара.

*Выходзіць Тарас Тарасавіч з крэслам-круцёлкай. Ён у ботах, міліцэйскіх галіфэ і сарочцы-вышыванцы. Вусы пышныя і віслыя. Сярэдніх гадоў і добрага здароўя чалавек.*

**ТАРАС.** Здравія жалаю, шаноўныя сaседзі! *(Ставіць сваю круцёлку да стала. Юзафу.)* А ты разьве не штрайкуеш, не бастуеш?! *(Штурхае нагою ўслончык).*

**ЮЗАФ** *(грае і спявае).*

Стала модна баставаць,
Мне таксама хочаца,
Ды не знаю, як пачаць
І чым гэта скончыцца.

**ТАРАС.** Чым скончыцца? Прыдзёт АМОН і штрайкам – гамон! *(Рагоча).*

*Янка-нямко прыносіць новы ліст фанеры. Адчыняюцца апошнія дзверы і на парозе з'яўляецца дарагое мяккае крэсла на колцах. У яго садзіцца сам Іван Іванавіч. Бародка і вусы ў яго аля Бабурын. Сарочка чырвоная, пояс з кутасамі, штаны спартыўныя з лампасамі, на нагах хатнія тапачкі. На грудзёх дэпутацкі значок. Янка кідае фанеру, бяжыць да слугі народа і падвозіць яго да стала. Слуга ў поўным росквіце сілаў і здароўя.*

**ІВАН** *(на маршы ў крэсле вітае прысутных ручкаю, як гэта рабілі да яго вядомыя "вожди").* Уважаемому "спадарству" наше нижайшее с кисточкой! *(Нечакана і даволі гучна).* Живёт Белоруссия!..

**ЮЗАФ** *(грае і спявае).*

Адзін – гаў! Другі – кусь!
І ўсе на Беларусь.
А таго не ўбачылі, што ўсё прысабачылі.

**ІВАН.** Всё юродствуешь?

**ЮЗАФ** *(выцягнуўшыся як на пляцы).* Юродствую. Жэчывісьце естэм дурнем, ясьне вельможны пане товажыш секретаж партыйны і наш дорогой слуга! *(Імітуе юродзівага з "Барыса Гадунова").* У юродивого отобрали копеечку... Царь Иван, вели их зарезать, как они зарезали Станислава Шушкевича!.. *(Вельмі сур'ёзна).* Між іншым, зарэзалі за два цвікі, як іншыя курвішоны тым часам у народа лёс укралі...

**ЯНКЕЛЬ.** О, божа, зноў палітыка! Нідзе няма паратунку ад палітыкі, нават за партыяй у шахматы.

**ІВАН.** О партиях пока памолчим. Они скоро сами за себя скажут. А тебе, юродивый, замечу, что ты очень серьёзно начал юродствовать. С чего бы это?! А от бродячих собак, между прочим, прохода нет.

**ЮЗАФ.** Псы – не людзе. Не загрызом.

**ІВАН** *(да ўсіх).* И всё же я его где-то па-человечески люблю, пшека окоянного. И компанию нашу, так сказать, первичную ячейку многонациональнорго интернационала он, как словянин, дополняет, как нельзя лучше.

**ЮЗАФ.** Кумпанія, як у Польсцы кажуць, не велька, але ж бардзо пожондна. *(На Івана Іванавіча).* Пан Дырэктар! *(На Тараса Тарасавіча).* Пан Паліцыянт! *(На Ахмета).* Пан Шпікулянт! *(На Янкеля Янкелевіча).* Пан Гувняж, пшэпрашам, Залатар! *(На сябе).* І ваш "пакорный слуга" Пан Гіцаль. Нам бы до купэ ешчэ мою жону та чтэры вашы курвы. О то быў бы сапраўдны інтэрнацыянал!

**ТАРАС.** Абайдзётца без нашых. *(На Янку).* Этат абарыгэністы аўтахтон, у смысле беларуса, любую курву заменіць і молча.

**ЮЗАФ** *(грае і спявае).*

Цёмны сам і белы вус...
Пазнаю, што беларус.
Не гавораць яго вусны
Мовай маці-беларускі.

**ІВАН.** Пожалел волк овцу... Полнарода ополячили, окатоличили, а чуть что, кричат о маскалях, о российском империализме! Клеймят Суворова...

**ЮЗАФ.** А Суворов – стара дупа, псякрэв, холера москальска!

**ІВАН** *(даволі дабразычліва).* За Суворова мы еще с тебя спросим. А вот представителя коренной нации не обижай, а то мы вас, осадников, "бардзо добже" знаем...

**ЮЗАФ.** Абарыген, проша пана, ніц не чуе і ніц не разуме. А каб і зразумеў, то ніц не скажа.

**ТАРАС.** Каб ён шчэ і аслеп, вот для інтэрнацыяналу буў бы сапраўдны абарыген. *(Рагоча).*

**ЯНКЕЛЬ.** Вы ўжо скажаце, таварыш маёр, такое, што хоць святых вынасі. У габрэяў бы вам павучыцца, як сваю нацыю шанаваць...

**ТАРАС.** Шучу я, браты, жартую з юмарам.

**ЯНКЕЛЬ.** Каму смех, а каму – гелэхтэр...

**ІВАН.** Неуместные "жарты". Отключаю микрофон.

**ТАРАС.** А дземакрація дзе? А плюралізм з канцэпцыяй?

**ІВАН** *(злосна).* На площади! У Дома правительства "дзерьмократія". *(Да прысутных).* Выходим сегодня после заседания сесии, - депутаты, члены правительства, руководство и прочая элита, - а десять тысяч глоток, а может и двадцать, орут как одна: холуи! холуи! холуи! А батальоны милиции стоят и лыбятся...

**ТАРАС.** А разве заарыштуеш дваццаць тысяч! Я ў сваім акалотку і тысячу ўзяць не можу.

**ІВАН.** Вот изберём генсека, восстановим райкомы, соберём учетные карточки, возродим ум, честь и совесть, тогда я посмотрю, как ты у меня запоёшь. Или думаешь, я до пенсии на спиртзаводе кантоваться буду?! *(Нечакана камандуе і даволі гучна).* На торжественную линейку-у-у в одну-у-у шерен-гу-у ста-но-вись!

*Усе звыкла, а таму і хутка шыхтуюцца перад тронцам. Янка-нямко скідае ватоўку, адкручвае з свайго голага цела бел-чырвона-белы сцяг і мацуе яго на шнуры, уважліва сочыць за Іванам Іванавічам, чакае яго каманды на пад'ём сцяга. Прыбягае Ахмет з зэдлікам, прышыхтоўваецца да шарэнгі.*

**АХМЕТ** *(вінавата).* Бачъзышланъыз! Афу этінъіз!

**ІВАН** *(камандуе).* Смир-р-р-но-о-о! *(Адштурхоўвае Янку-нямко, зрывае бел-чырвона-белы сцяг і разрывае яго на кавалкі).* Возьмите на память! Мы сегодня и власть, и знамя заменили! *(Вымае з-пад азадка бэсэсэраўскі сцяг і кідае Янку-нямко).* Цепляй и поднимай! *(Янка-нямко чапляе сцяг).* А ты, шляхтич недобитый, подыграй интернационалу. Я плачу! *(Запявае).*

Мы, беларусы, з братняю Руссю
Разам шукалі к шчасцю дарог,
У бітвах за волю, у бітвах за долю
З ёй здабылі мы сцяг перамогн.

*Тарас, Янкель і Ахмет падпяваюць.*

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас у паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе беларускі народ!

**ІВАН.** Воль-но-о!.. Прошу занять места. Заседание, как тот говорил, продолжается, господа присяжные избиратели. Что сегодня внесём в повестку дня?..

*Янка-нямко выходзіць.*

**ТАРАС.** Я думаю, што на фоне обшчапаліціческіх дзебатаў шашкі ўнясём. *(Вымае з кішэні і кладзе на стол невялічкую скрыначку з шашкамі).*

**ІВАН.** Он думает!.. Мыслитель нашелся. Лишь бы придавить малые народы. Что ни хохол, то националист махровый.

**ТАРАС.** Абы не маржовы... Да таго ж я не хахол, а паляшук, а тачней – яцьвяг. Яцьвяг я!

**ІВАН** *(вельмі мірна).* Ладно, не обижайся, яцьвяг. Я тоже "жартую". Вноси, реб Янкель, предложение от своей бундовской фракции и правокулацкого уклона.

**ЯНКЕЛЬ.** Госпадзі Божа мой! Дзе ён бачыў той бунд з "уклонам"? Хоць я і ўношу шахматы – старая габрэйская гульня, і можа таму вашаму Карпаву так трудна.... Але ж чым мы можам дапамагчы? У рускую галаву габрэйскі розум не ўкладзеш...

**ТАРАС** *(з папрокам).* А старую рускую ігру он унесті не можат! Вуй і хітрышчы народ! Так і цэліць, каб падкузьміць ды падкалоць вялікую рускую нацыю.

**ЯНКЕЛЬ** *(апялюе да ўсіх).* Агіцал фаравоз! І как вам гэта нравіцца?..

*Янка Нямко нясе ў сваю кватэру яшчэ адзін ліст фанеры і вяртаецца.*

*(Працяг у наступным нумары)*



Сымон БАРЫС

# Чорныя дні і страты Беларусі

**31.10.1905 г.** – на Прывакзальным пляцы ў Менску царскія войскі і паліцыя з дазволу менскага губернатара П. Р. Курлова расстралялі 20-тысячны мітынг, які праходзіў пад заклікам утварэння дэмакратычнай рэспублікі. Забіта да 100 чалавек, каля 300 паранена.

**19.07.(01.08).1914 г.** – пачалася Першая сусветная вайна. У 1915 г. Генеральным штабам расійскай арміі прынята рашэнне аб высяленні цывільнага насельніцтва з прыфрантавой паласы. З Заходняй Беларусі было прымусова выселена каля 1,5 млн. жыхароў у расійскія губерні, у прыватнасці, у Сібір. У выніку Першай сусветнай вайны на Беларусі не стала кожнага пятага жыхара. Насельніцтва Беларусі скарацілася з 7 515, 1 тыс. чалавек (1914 г.) да 6 636,7 тыс. (1920 г.).

**17 (30).12.1917 г.** – разгон узброенымі бальшавікамі I Усебеларускага з'езду (кангрэсу).

**03.03.1918 г.** – падпісанне мірнай дамовы Савецкай Расіі з Германіяй у Брэст-Літоўску (Бярэсці) без удзелу прадстаў-нікоў Беларусі. Паводле Берас-цейскага міру, Віленшчына і Гарадзеншчына перадавалася Літве, паўднёвая частка Палесся адыходзіла да Украіны, а астатняя частка разглядалася як прэрэгатыва Расійскай Федэрацыі. Берасцейская мірная дамова была ануляваная пастановай УЦВК РСФСР 13 лістапада 1918 г.

**05.09.1918 г.** – Савет Народных Камісараў РСФСР прыняў пастанову "Аб чырвоным тэроры". Гэта пастанова дзейнічала і на тэрыторыі Беларусі, занятай Чырвонай Арміяй.

**16.01.1919 г.** – пастановай ЦК РКП(б) са складу Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь вылучаны і перададзены РСФСР тэрыторыі Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў. У складзе ССРБ засталіся толькі дзве губерні – Менская і Гарадзенская. На аснове Віленскай і Менскай губерняў 27 лютага 1919 г. стваралася Літоўска-Беларуская ССР (ЛітБел) са сталіцаю ў Вільні.

**30.12.1920 г.** – 1-я Слуцкая брыгада войскаў БНР перайшла раку Лань і была разброена польскім войскам.

**11.08.1920 г.** – у Маскве была падпісана мірная дамова паміж РСФСР і Латвіяй, паводле якога Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі паветы і дзве воласці Дрысенскага павету, якія належалі Віцебскай губерні, перадаваліся Латвіі. На гэтых землях плошчай каля 6 тысяч кв.вёрст пражывала 150 тысяч беларускага насельніцтва.

**18.03.1921 г.** – паводле Рыжскай мірнай дамовы Беларусь падзялілі паміж сабой Польская Рэспубліка і Расейская Федэрацыя. Пад апекай РСФСР апынулася Беларуская ССР, у складзе якой засталіся толькі 6 паветаў – Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мазырскі, Менскі і Слуцкі, што складала тэрыторыю 52,3 тысяч кв.км з насельніцтвам 1,6 млн. чалавек. У склад Польскай Рэспублікі ўвайшла Заходняя Беларусь, што складала 40% яе тэрыторыі і насельніцтва (112 тысяч кв.км. з насельніцтвам 4,6 млн. чалавек). Рыжская дамова дзейнічала да 17 верасня 1939 г., калі Чырвоная Армія пачала паход у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну.

**Верасень 1921 г.** – чакісты разграмілі менскую арганізацыю "Зялёны Дуб".

**15.02.1923 г.** – пастановай ЦВК СССР утворана судовая калегія АДПУ, якая мела права разглядаць у пазасудовым парадку крымінальныя справы аб дыверсіях, шкодніцтве і іншых злачынствах, а таксама прымянення ўсіх мер пакарання.

**1924 г.** – у Заходняй Беларусі польскія ўлады зачынілі 400 беларускіх школ і 15 беларускіх газет.

**05.12.1926 г.** – польская паліцыя правяла пагром і збіванні каля 100 дэлегатаў з'езду Беларускай работніцка-сялянскай грамады, які праводзіўся ў вёсцы Стара-Бярозава Беластоцкага ваяводства.

**03.02.1927 г.** – у м. Косава (Івацэвіцкі р-н) польскія карныя органы расстралялі дэманстрацыю. Загінула 6 чалавек, паранена каля 20.

**1928 г.** – у Беластоку праводзіўся судовы працэс над 133 дзеячамі нацыянальна-вызвольнага руху Заходняй Беларусі.

**14.12.1929 г.** – польскія ўлады забаранілі выконваць гімн "Ад веку мы спалі" на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

**23.02.-22.05.1928 г.** – у Вільні праводзіўся судовы "працэс 56-і". Асудзілі кіраўнікоў 100-тысячнай Беларускай сялянска-работніцкай грамады да розных тэрмінаў зняволення.

**30.08.1930 г.** – польская паліцыя правяла масавыя арышты актывістаў арганізацыі "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых".

**1929 г.–1.05.1933 г.** – у выніку прымусовай калектывізацыі сялян было раскулачана больш за 22 тысячы гаспадарак і саслана больш за 35 тысяч сем'яў. Па іншых падліках, у 1931 – 1934 гг. з БССР было вывезена каля 250 тысяч чалавек (пераважна сялян, залічаных да кулакоў).

**02.02.1930 г.** – у СССР (і на Беларусі) пры паўнамоцных прадстаўніцтвах АДПУ рэспублік і абласцей сфармаваныя "тройкі", якім было дадзена права без суда выносіць рашэнні аб накіраванні абвінавачаных імі асоб у канцлагеры або аб іх расстрэле.

**1930 г.** – у Савецкай Беларусі былі забароненыя беларускія гімны "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", "Ад веку мы спалі".

**07.08.1932 г.** – Вярхоўны Савет ССР прыняў Закон аб ахове сацыялістычнай уласнасці, які прадугледжваў расстрэл з канфіскацыяй маёмасці або высылку тэрмінам да 10 гадоў за крадзёж калгаснай і кааператыўнай маёмасці. За непамерную суровасць у народзе яго назвалі "законам аб пяці каласках".

**26.08.1933 г.** – пастановай Савета Народных Камісараў БССР "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу" зацверджана рэформа беларускага правапісу, якая фактычна стала рэформай беларускай мовы з мэтай збліжэння яе з рускай.

**1933 г.** – голад у краіне, выкліканы палітыкай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак.

**01.12.1934 г.** – прынята пастанова Прэзідыюму ЦВК СССР аб паскораным разглядзе крымінальных спраў па абвінавачванні ў здзяйсненні тэрарыстычных актаў, дыверсій і г.д. Тэрміны вядзення следства скарачаліся да 10 дзён.

**07.04.1935 г.** – Указам Прэзідыюму Вярхоўнага Савета СССР пакаранні Крымінальнага кодэксу распаўсюджваліся на дзяцей 12-гадовага ўзросту. Паводле гэтага ўказу, дзяцей можна было расстраляць на законных падставах.

**05.12. 1936 г.** – прынятая на VIII Надзвычайным з'ездзе Саветаў СССР Канстытуцыя СССР знішчыла рэшткі суверэнітэту Беларусі.

**17.03.1937 г.** – Вярхоўны Савет СССР прыняў Закон аб забароне сялянам пакідаць калгасы без падпісання адміністрацыяй працоўнага пагаднення з будучым работадаўцам: пазбаўленне сялян права свабоднага перамяшчэння. Сялянам не выдаваліся пашпарты.

**03.06.1937 г.** – Галоўліт БССР выдаў загад № 33 пад назваю "Спіс літаратуры, якая падлягае канфіскацыі з бібліятэк грамадскага карыстання, навучальных устаноў і кнігагандлю". Спіс меў 421 назву.

**29.07.1937 г.** – Пленум ЦК КП(б)Б з удзелам прыехаўшых з Масквы загадчыкаў аддзелаў ЦК УКП(б) Г. М. Маленкова і Я. А. Якаўлева стаў пачаткам масавых рэпрэсій супраць кіраўнічых дзяржаўных, партыйных, савецкіх гаспадарчых кадраў і інтэлігенцыі Беларусі.

**1937 г.** – увесь клір больш за 400 прыходаў Беларускай аўтакефальнай царквы, утворанай 10 ліпеня 1922 г., быў знішчаны.

**31.07.1937 г.** – Палітбюро ЦК УКП(б) зацвердзіла праект апаратыўнага загаду НКУС СССР аб рэпрэсаванні былых кулакоў, крымінальнікаў і антысавецкіх элементаў. Паводле гэтага загаду, **05.08.1937 г.** павінна была пачаца аперацыя, якая прадугледжвала на тэрыторыі Беларускай ССР за 4 месяцы расстраляць 2 тысячы чалавек і адправіць у лагер 10 тысяч чалавек тэрмінам ад 8 да 10 гадоў. План рэпрэсій усюды быў перавыкананы.

**29.10.1937 г.** – у Менску каты НКВД адначасова расстралялі 14 беларускіх пісьменнікаў: Анатоля Вольнага, Платона Галавача, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага, Браніслава Тарашкевіча і інш. Першыя расстрэлы ў Курапатах, каля Менску.

**01.11.1937 г.** – у Курапатах былі расстраляны епіскапы, святары і дыяканы Беларускай аўтакафельнай царквы.

**31.01.1938 г.** – Палітбюро ЦК УКП(б) зацвердзіла дадатковы план рэпрэсій супраць былых кулакоў, крымінальнікаў і антысавецкіх элементаў. Органы НКУС на тэрыторыі Беларускай ССР павінны былі расстраляць 1.500 чалавек і адправіць у лагер 1.000 чалавек тэрмінам ад 8 да 10 гадоў. Расстрэлы так званых ворагаў народа адбываліся ў Курапацкім, Ваньковіцкім лясах, у Лошыцкім кар'еры (каля Менска), Шакатоўскім лесе (каля Гомеля), ля Кабыляцкай гары (каля Оршы). У выніку сталінскага генацыду Беларусь страціла звыш 2 млн. чалавек.

**1938 г.** – ва ўрочышчы Цівалі, каля Менска, супрацоўнікі НКУС расстралялі больш за 250 чыгуначнікаў па загаду наркама шляхоў зносін Лазара Кагановіча за тое, што тыя адмовіліся перавозіць рэпрасаваных зняволеных.

**25.09.1939 г.** – сумесны парад савецкіх і нямецкіх войскаў у Берасці.

**10.10.1939 г.** – І. Сталін перадаў Вільню і Віленскі край Літве без згоды Вярхоўнага Савета БССР.

**10.02.1940 г.** – у гэты дзень у Заходняй Беларусі было пасаджана ў вагоны цягнікоў 50 тысяч чалавек (сем'і асаднікаў і работнікаў лясной аховы) і вывезены ва ўсходнія і паўночныя раёны Расіі.

**03.04.1940 г.** – карнікі НКУС пачалі масавыя расстрэлы палонных афіцэраў польскага войска (сярод іх былі і беларусы) у Катыні, каля Смаленска. Тут расстраляны былы рэдактар "Нашай долі" Францішак Умястоўскі.

**13.04.1940 г.** – праводзіўся другі тур высялення 24 тысяч чалавек з Заходняй Беларусі ў Сібір і Казахстан.

**26.06.1940 г.** – прыняты Указ Прэзідыюму Вярхоўнага Савета СССР аб павялічэнні працягласці рабочага часу (васьмігадзінны рабочы дзень і сямідзённы рабочы тыдзень) без змен памераў тарыфных ставак і акладаў, аб забароне "неапраўданага" выхаду рабочых і служачых з прадпрыемстваў і ўстаноў. Указ фактычна замацаваў рабочых і службоўцаў за прадпрыемствамі. Уводзілася крымінальная адказнасць за спазненне больш як на 21 хвіліну.

**29.06 1940 г.** – падчас трэцяга туру высялення з Беларусі было вывезена 23 тысячы чалавек.

**10.07.1940 г.** – прыняты Указ Прэзідыюму Вярхоўнага Савета СССР аб прыўраўніванні да "шкодніцтва" выпуску нестандартнай і няякаснай прадукцыі.

**25.11.1940 г.** – перадача І. Сталіным Літве беларускіх зямель Свянцянскага раёна і некалькіх сельсаветаў з суседніх раёнаў без згоды Вярхоўнага Савета БССР.

**19.06.1941 г.** – дэпартавана з Беларусі 22 тысячы чалавек (галоўным чынам сем'і дзеячаў грамадскіх і палітычных арганізацый розных нацыянальнасцяў). Усяго за паўтара года да вайны было выселена звыш 125 тысяч жыхароў Заходняй Беларусі.

**22.06.1941 г.** – нацысцкая Германія напала на СССР, пачалася Вялікая Айчынная вайна, якая стала часткай Другой сусветнай вайны (01.09.1939 г. – 02.09.1946 г.). Беларусь у другой сусветнай вайне страціла кожнага трэцяга жыхара.

**26-28.06.1941 г.** – расстрэл органамі НКУС савецкіх палітычных зняволеных турмы "Ігумен" каля г. п. Чэрвеня, ва ўрочышчы Цагельня.

**12.07.1941 г.** – загадам А. Гітлера зменены адміністрацыйныя межы Беларусі ў бок іх скарачэння. Утворана Генеральная акруга Беларусь, якая склала адну трэць даваеннай тэрыторыі БССР (плошча – 53 662 кв.км з 235 тысяч кв.км, насельніцтва склала 2 411,3 тысяч чалавек з 10,6 млн чалавек).

**16.08.1941 г.** – загад Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання № 270 аб'яўляў здраднікамі тых савецкіх чырвонаармейцаў і камандзіраў, якія апынуліся ў палоне, і прапаноўваў арыштоўваць членаў іх сем'яў і пазбаўляў іх дзяржаўных дапамог.

**У траўні – лістападзе 1942 г.** – каля ст. Бронная Гара Бярозаўскага раёна акупанты знішчылі больш за 150 тысяч чалавек мірнага насельніцтва.

**28.06.1942 г.** – у Маскве трагічна загінуў Янка Купала.

**28.07.1942 г.** – загад наркама абароны СССР №227 "Ні кроку назад" санкцыянаваў стварэнне загараджальных аддзелаў у тыле савецкіх войск і штрафных рот і батальёнаў для барацьбы з "панікёрамі і баязліўцамі". Загад дзейнічаў да канца вайны.

*(Працяг у наступным нумары)*

Культурныя хронікі

# Тры крыніцы, тры складальнікі нашай надзеі

Сапраўднай падзеяй сталічнага культурнага жыцця стаў шэраг імпрэз і прэзентацый, што адбыліся ў верасні. Дзякуючы дапамозе прадзюсараў БМА-груп быў арганізаваны і праведзены юбілейны канцэрт фальклёрнага гурта "Ліцьвіны". За сваю дзесяцігадовую гісторыю "Ліцьвіны" даказалі сабе і слухачам слушнасць свайго выбару – выконваць фальклёр найбольш блізка да аўтэнтычных крыніц.

Кіраўнік "Ліцьвінаў" Уладзімір Бярбераў увесь час існавання калектыву паспяхова рэалізаваў сябе ў некалькіх іпастасях: як збіральнік і даследчык беларускага фальклёру, як калекцыянер аўтэнтычных інструментаў, як тэарэтык і практык дударскай музыкі, як прадзюсар...

Канцэрт "Ліцьвінам – 10 гадоў" стаў падрахункам усяго таго, што прайшлі музыкі за гэты немалы час. Таму са сцэны Дома культуры трактарнага завода гучалі беларускія народныя песні з кампакт-дыска "Ой, у лузе, лузе..." і зусім новыя песні і інструментальныя нумары.

Аматары фальклёрных спеваў зноў з удзячнасцю віталі выканаўчае майстэрства У. Бярберава (дуда, спеў), В. Сяглы (скрыпка), М. Калечыц (цымбалы), Ю. Міхайлоўскага (акардэён), вакальнай групы "Ліцьвінаў" у складзе В. Яршовай, Т. Верабей, В. Лінік, Т. Андрэевай, Д. Маркінай. Гэта ў іх выкананні адрадзіліся такія шэдэўры народнай творчасці, як песні "У чыстым полі", "Пасею гурочкі", "Ой, бедная я, бедная, "Вутачка", ужо стаўшая нацыянальным хітом калядка "Саўка ды Грышка", інструментальныя творы – полькі, кракавякі, маршы...

Неверагодны фейерверк натуральных гукаў, дасканалага спеву гіпнатызаваў слухачоў ад першых нот да апошніх акордаў. Удзячныя аматары беларускага фальклёру дарылі музыкам букеты кветак і шчырыя апладысменты і, як на прэм'ерных канцэртах, апантана набывалі касеты і кампакт-дыск "Ой, у лузе, лузе...", што ўжо стаў жаданым набыткам у многіх краінах Еўропы.

З масавага распродажу накладу дыска "Легенды Вялікага Княства" распачаўся афіцыйны рэліз гэтага сенсацыйнага выдання сярэдневечнай беларускай музыкі, якое было ажыццёўлена БМА-груп і клубам "Рыцары Вялікага Княства".

Аўтар ідэі і прадзюсар гэтага праекту Арына Вячорка распавяла пра гісторыю яго ўзнікнення, выклікала на сцэну тых, хто браў непасрэдны ўдзел у яго падрыхтоўцы: Уладзіміра Давыдоўскага, Змітра Герасімовіча, Сяргея Герасімава ды кіраўніка БМА-груп Вітаўта Супрановіча, выказала ім словы ўдзячнасці за дапамогу ў ажыццяўленні гэтага выдання.

Канцэртная версія "Легенд Вялікага Княства" распачалася ўзнёслымі словамі пра вольнасць Льва Сапегі са "Статута Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага" 1588 года, а таксама "Багародзіцай" у выкананні хора "Унія" пад кіраўніцтвам К. Насаева.

Атмасферу легендарнага Вялікага Княства, высакароднага рыцарства, сярэдневечнай гармоніі пераняў ансамбль старажытнай музыкі "Контраданс" з Баранавічаў. Музыкі хараша выконвалі сярэдневечную еўрапейскую музыку, творы "Полацкага сшытка". А вакальны гурт пад кіраўніцтвам А. Латушкіна прапанаваў сваю версію чумацкай песні "Валы" і баладу часоў Слуцкага паўстання "Чорная рэчка".

Слухачы віталі выканаўцаў, чые творы былі запісаныя на дыску "Легенды Вялікага Княства" – А. Журу і яго World-music гурт "Artes Liberales", гурт "Стары Ольса" Зміцера Сасноўскага (Гомель), які выканаў старажытную баладу "Вайтоўна". Удзельнікі яшчэ аднаго "старога" гурта "Стара Літва" прапанавалі музыку В. Бакфарка, беларускія канты, а слухачы з захапленнем віталі чароўную салістку "Старай Літвы" Дзіяну Маркіну, якая выканала ўзнёслую мелодыю індаеўрапейскага кшталту "Арыяварта".

Знакаміты бард і выканаўца гістарычных песень Зміцер Сідаровіч пад агульныя воплескі выканаў пад гітару свае знакамітыя балады "Гэй-га, Нямон", "Пена цёмнага піва" ... А паміж музычнымі нумарамі тых, хто прысутнічаў на прэзентацыі "Легендаў", віталі ўдзельнікі каскадзёрскай групы клуба "Рыцары Вялікага Княства", якія дэманстрвалі майстэрства валодання мячамі з элементамі барацьбы айкідо ды каратэ.

Другая частка прэзентацыі, па словах арганізатараў, была прысвечана тым, хто будзе прадстаўлены на "Легендах Вялікага Княства – II". А гэта была музыка ў выкананні ансамбля "Контраданс", гурта "Artes Liberales" які "забоўтаў" слухачоў залішняй порцыяй ірландшчыны,




больш прыдатнай для святкавання дня св. Патрыка...

Сюрпрызам канцэрту сталася цудоўнае выступленне гурта (а дакладней аскепка яго) вядомага пад назвай "Склеп". Цяпер гэта трыё з вакалісткай і дзвюма акампанавальнымі гітарамі. Спадабаліся іх меладычнасць і ашчадныя аранжыроўкі твораў на словы Л. Геніюш, Я. Янішчыц, Я. Купалы. Песні маладых музыкаў дораць слухачам цяпло сэрцаў, нясуць святло цудоўнай паэзіі і прыгажосць беларускага слова. Зараз былыя "склепаўцы" шукаюць новую назву гурта і збіраюцца больш актыўна ўдзельнічаць у канцэртным жыцці Беларусі.

І хоць слова "інтэграцыя" ўжо становіцца ўпоперак горла, мушу зноў яго ўспомніць у сувязі з правядзеннем БМА-груп музычнай акцыі "Рок-інтэграцыя" ў сталічным парк-клубе "Мінск". Нажаль, "інтэграцыя" атрымалася толькі беларуска-украінскай: запрошаны брытанскі гурт "Mayze" так і не даехаў да беларускай сталіцы, быў спынены на мяжы. А замест заяўленага культавага гурта "Мёртвы певень" прыехала львоўская каманда "Чорны верасень" ...

А распачаў рок-вячоркі ў парк-клубе "Мінск" вакальна-тнструментальны аддзел "Zet". І адразу, пасля першых рыфаў слухачы пачалі выпрабоўваць трываласць падлогі памяшкання клуба. Але што праўда, то праўда: пад такія рытмы нельга доўга трымаць свой вестыбулярны аппарат у вертыкальным становішчы. Асабліва, калі гучаць такія "зэтаўскія" хіты як "Гэй, славяне!", "Хлопчык", "Аддайце мне маё", "Уся айчына" і г.д. Нечаканасць для аматараў – дэбют новага бубнача-гуманоіда Маньяка.

Пакуль вядовец Алесь Помідораў аб'яўляе, што міліцыя затрымала гітарыста гурта "NRM" Піта Паўлава за несанкцыяваны запуск паветранага змея з лога "Выбірай", на сцэне рыхтуецца да свайго выступу гурт "Крама". І зноў сюрпрыз – вяртанне ў склад гурта клавішніка Андрэя Лявончыка. Гэты comeback пайшоў на карысць "Краме", якая на адным дыханні выдала шэраг сваіх лепшых песень ад "Анёла" да "Каменданта" і "Слуцкай брамы". У гэты час адбываецца немагчымае: слухачы падпяваюць лідару "Крамы" Ігару Варашкевічу і разважаюць наконт таго, ці паспее Піт Паўлаў да свайго выступу на гэтым канцэрце?

Дзяўчыны з львоўскага гурта "Чорны верасень" нагадваюць мне часы службы ў гуцульскай сталіцы Прыкарпацця – у горадзе Каламыя, дзе быў знаёмы з мясцовымі прыгажунямі. У гурце "Чорны верасень" салісткі таго ж жаночага тыпу: чарнявыя, дужа гожыя і галасістыя ўкраінскія дзяўчаты. Дый музыку яны прапанавалі беларусам даволі модную – у стылі Sheryl Crow ды "The Corrs". Хоць некаторыя іх песні ўзыходзілі да больш складаных форм сімфароку і індастрыелу. Як у песенным прысвячэнні Украіне і Беларусі – кампазіцыі "Змрочны край". Ну а слухачы віталі львоўскіх прыгажунь воклічамі "Жыве Беларусь!", "Шчэ не вмерла Україна!", "Жыве "Оболонь"!...

Не на жарт разышлася публіка і на сцэне гурта "Нейра Дзюбель", асабліва пад час выканання іх палітхіта "Ехалі пачвары на хаўтуры". Стала зразумела, чым бяруць "Дзюбелі" – хуліганскімі (але не пахабнымі) тэкстамі, вобразамі, рыфмамі. Кантрасты моладзі падабаюцца!

А вось і зорны час Піта Паўлава – трыўмфальнае вяртанне з міліцэйскага пастарунка на патрульнай машыне. Значыць імпрэза будзе мець працяг і на сцэне ўжо рыхтуюцца музыкі супольнага праекту "Народны альбом". Адзін за адным гучаць знакамітыя песні з яго: "Край, ты мой край", "Я да жалю не пан", "La-La-La", а вядовец "Рок-інтэграцыі" Алесь Памідораў выконвае цудоўную рэпкампазіцыю з праекту "Святы вечар -2000" "Цуд на Каляды"...




Але апафеозам супольнага выканання можа лічыцца галоўная песня аднайменнага праекта "Я нарадзіўся тут". Цікава было назіраць, як слухачы рознага ўзросту самі станавіліся выканаўцамі і падпявалі Лявону Вольскаму і Змітру Вайцюшкевічу:

"Радзільня, дзіцячы садок, /Школа ды інстытут,/ Я нарадзіўся тут,/ І я буду жыць тут!"

Усіх прысутных, а зала парк-клуба "Мінск" была забіта на сто адсоткаў, уразіла і ўзнёслая рок-версія з маленства памятнай песні "Нёман" аўтару тэкста якой паэту Анатолю Астрэйку не так даўно споўнілася 90 гадоў! На развітанне быў выкананы і самы знакаміты беларускі эвергрын – "Бывайце здаровы!" І. Любана і А. Русака.

Але сапраўднае выпрабаванне для падлогі і столі парк-клуба "Мінск" чакала памяшканне ў час выступу гурта "NRM". Відаць, архітэктары нешта прадчувалі і спраектавалі з улікам магчымых сейсмічных катаклізмаў. Гэта і ўратавала і музыкаў, і слухачоў: толькі адных струн "энэрэмаўцы" парвалі аж тры! З такім імпэтам яны "разанулі" "Партызанскую", а за ёй – "Паветраны шар", "Ментальнасць" ды "Катуйратуй"... Калі ж адкінуць эмоцыі, тады можна заўважыць, што гурт "NRM" і яго лідар Лявон Вольскі ўзялі на сябе цяжар інтэлектуальнага цэнтра, вакол якога гуртуюцца творчыя сілы шматлікіх гуртоў і супольных праектаў. Яны і ствараюць тое, што слухачы і крытыкі называюць нацыянальным у беларускай рок-музыцы.

Усе тры імпрэзы, што адбыліся пры ўдзеле БМА-груп, засведчылі непаўторную сувязь народных, старажытных і сучасных музычных традыцый, што сёння ствараюць непаўторную музычную палітру Беларусі. Мы іх нашчадкі і прадаўжальнікі, а гэта – вялікая адказнасць!

**Анатоль Мяльгуй,**
**11.09.2001г.**

***На фота:*** *адбіткі паштовых картак, прысвечаных зоркам беларускага року. Выданне БМА-груп.*

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 09. 2001 г.
Наклад 5050 асобнікаў. Замова № 2140.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
***Кошт у розніцу:*** 80 руб.